ТУРЫЗМ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Анатолю Тозіку трэба з'ездзіць у Нясвіж не на службовай машыне

*Пасля паездкі ў Нясвіж сфарміравала меркаванне: хваліць турыстычныя аб'екты Беларусі могуць толькі тыя, хто там ніколі не бываў.*

Днямі міністр культуры Беларусі **Павел Латушка** падзяліўся з расійскімі калегамі радаснай навіной — у рэстаўрацыю такіх аб'ектаў, як палацы і замкі, у Беларусі ўкладваюцца сур'ёзныя рэсурсы. Прыкладна ў той жа час, калі Латушка хваліўся дасягненнямі нашай рэстаўрацыі, я гуляла па старажытным горадзе Нясвіжы.

Ад Мінска да Нясвіжа прыкладна 120 кіламетраў добрай шашы з маляўнічымі краявідамі абапал. Перыядычна сустракаюцца бігборды з рэкламай новага замкавага комплексу ў тым самым Нясвіжы. Для адрэстаўраванага палаца не шкадуюць прыемных слоў: скарб, багацце, спадчына. І рэклама працуе — аўтобус Мінск—Альшаны, што ідзе праз запаветны гарадок, запоўнены пад завязку.

Калі няма ўласнага аўто, то дзве гадзіны трэсціся ў перапоўненым аўтобусе — амаль што адзіны шанц дабрацца ў выхадны дзень да турыстычнага месца. Можна яшчэ сесці на электрычку, але яна ідзе толькі да Гарадзеі. А ўжо адтуль вас да патрэбнага пункта давязе аўтобус. Такі вось "празрысты" маршрут. Асабліва для замежнікаў, якім шчыра незразумела, чаму ў Мінску нельга набыць зваротны квіток з Нясвіжа. Дарэчы, у ***Нясвіжы таксама нельга набыць зваротны квіток да Мінска***... І гэта не жарт. Цётачка ў акенцы мясцовай аўтастанцыі зірне на вас, як на чалавека, які розумам не блішчыць, і скажа, што ў аўтобус можна патрапіць, толькі калі там будуць вольныя месцы. Ну а калі ў Нясвіж ён ужо прыйдзе поўным — прабачце, чакайце наступнага...

Мае спадарожнікі жартавалі: адсутнасць зручнага транспарту — прыдумка мясцовых улад. Маўляў, так яны павышаюць колькасць насельніцтва горада. Злы жарт атрымаўся, але ў нечым праўдзівы. Насуперак здароваму сэнсу суботні Нясвіж не падрыхтаваны да візіту турыстаў... Адзіная прыватная бізнес-ініцыятыва, якую я заўважыла, — дзве бабулі — гандляркі ландышамі і дзядок, які на аўтастанцыі прапаноўвае набыць свойскае сала. Праўда, добра працуюць сувенірныя лаўкі ля ўваходу ў палацавы парк. Іншым бы павучыцца.

Два з чатырох месцаў грамадскага харчавання ўжо з раніцы зачынены на спецабслугоўванне. Я не супраць — мясцовым жыхарам таксама трэба месца, каб адзначаць вяселлі, юбілеі і іншыя традыцыйныя "рэстаранныя" святы. Але турыстам, так ужо закладзена прыродай, таксама хочацца есці... Пажадана хутка і смачна. Заўважце, пра танна я не кажу. Людзі, якія едуць у "турыстыку", падрыхтаваны да таго, што прыйдзецца траціць грошы.

15 чэрвеня афіцыйна адбудзецца адкрыццё палаца ў Нясвіжы. Між тым наведаць яго можна ўжо сёння. Дарослы квіток каштуе 30 тысяч, студэнцкі — 15. Колькасць жадаючых прайсціся па калідорах радзівілаўскіх пакояў — сотні чалавек! Для прагляду пакуль адкрыты ўсяго некалькі залаў. Каб патрапіць у іх, трэба пачакаць, пакуль выйдзе папярэдняя група. Тут нічога благога няма. Нават прыемна, бо вельмі шмат сярод турыстаў замежнікаў, у асноўным расіян, якія здзіўляюцца багаццю нашай гісторыі.

А піць каву ў палацавай кавярні зусім непрыемна. Цяжка зразумець матывацыю афіцыянткі, якая з сумам на твары кажа кліентам, што капучына яна не зробіць, бо *"малака няма".* Сапраўды, ну дзе тут малака возьмеш, гэта ж прадукт, якім ну ніяк нельга запасціся перад выхаднымі!

На пачатку года журналіст "Народнай Волі" **Алена Малочка** распавядала, як была шакіравана тым, што ў сувенірнай краме Мірскага замка скупы асартымент. З гэтым немагчыма не пагадзіцца, але я лічу, што разнастайнасць сувеніраў — перадапошняя праблема, на якую зараз трэба звярнуць увагу. Заўважу: пра тое, што адрэстаўраваныя замкі і палацы — "навадзел", я таксама казаць не хачу. Лепш так, чым гурба цаглін, якую знайсці могуць хіба што мясцовыя старажылы. Але на халеру нам, беларусам, такі скарб, да якога нельга дабрацца сваім ходам? Я губляю ледзьве не менш часу і дакладна не столькі нерваў, каб дабрацца да літоўскага ўзбярэжжа Балтыйскага мора, чым на тое, каб пазнаёміцца з Нясвіжам!

У сувязі з гэтым маю адзінае пытанне да прадстаўнікоў Мінкульта, Мінспорту і турызму, а таксама віцэ-прэм'ера **Анатоля Тозіка,** які ва ўрадзе адказвае за сацыяльна-культурную сферу: спадары, вы спрабавалі наведаць адноўленыя аб'екты не на службовых машынах?

Можаце не адказваць, і так усё зразумела...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

РЭГІЁНЫ

## Кансервы з дохлай рыбы

*Відавочна, з такой сыравіны прыйдзецца вырабляць свой прадукт Талачынскаму кансерваваму заводу. Справа ў тым, што прадпрыемства няправільна ўтылізуе адходы і атручвае раку Друць.*

На сёння шкода ад дзеянняў завода склала каля паўмільярда рублёў! Гэтыя лічбы пасля сваіх даследаванняў прыводзіць грамадзянская кампанія "Наш дом". Гэта толькі частка ацэненай шкоды. Фінальныя лічбы могуць быць куды большыя.

Між тым грашовыя страты — толькі частка праблемы. Адходы з крухмальнага цэха патрапілі ў раку Друць, з-за чаго ў вадаёме гіне рыба. Узровень кіслароду ў вадзе знізіўся да 2%, а для жыцця рачной фаўны трэба мінімум 6%.

## Ні помніка, ні канцэрта

*У Гродне адмянілі канцэрт у рамках кампаніі за ўсталяванне помніка Кастусю Каліноўскаму.*

Музыкі з гурта "Кальян" сцвярджаюць, што канцэрт не мусіў быць палітычным. Помнік Кастусю Каліноўскаму — тое, чаго даўно не хапае гораду. Так яго жыхары ўшанавалі б памяць продкаў, упэўнены маладыя людзі.

Наступным разам "Кальян" плануе выступіць у Гродне на Фестывалі маладзёжнай журналістыкі "Твой стыль".

## Толькі гэтага нам не хапала

*Мусіць, так думалі прадстаўнікі бярозаўскай ЖКГ, калі ўсталёўвалі насупраць лядовага палаца скульптуру хакеіста.*

Гіпсавага спартсмена стварыла мастак-скульптар бярозаўскай ЖКГ **Наталля Ярмальчук**. Хакеіст не належыць ні да адной існуючай беларускай каманды, хоць яго каляровая форма і нагадвае афарбоўку амуніцыі клуба "Дынама". У руках гіпсавы хлопец трымае клюшку, але шайбы побач няма.

Варта заўважыць, што ў Бярозе няма свайго хакейнага клуба. А вось лядовы палац ёсць. Магчыма, недахоп рэальных спартсменаў вырашылі кампенсаваць гіпсавымі героямі.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

# Чаму беларускія вуліцы носяць расійска-савецкія імёны?

*Фарміраванне пантэона герояў гісторыі і нацыянальных герояў (сімвалаў нацыі) цесна звязана з дзяржаўнай палітыкай памяці. Гісторыя і культура, на жаль, выкарыстоўваюцца як інструмент палітыкі. І гэта не ёсць асаблівасцю толькі Беларусі...*

Сучасныя кіруючыя беларускія эліты вядуць пераемнасць улады ад БССР, а таму ідэалізуюць савецкую эпоху, яе сімвалы і знакі. **У Гомельскім раёне** да гэтага часу ёсць **сяло Урыцкае** (*у гонар расійскага бальшавіка*). Працаўнікі вёскі Мінскай вобласці аб'яднаны ў 11 гаспадарак **імя Кірава** (*кіраўніка ленінградскай арганізацыі партыі бальшавікоў).* А калгасаў імя беларускага паэта **Янкі Купалы** на Міншчыне толькі два. Цэлыя гарады носяць назву былых камуністычных дзеячаў (Дзяржынск, Кіраўск). ***У Расіі і Украіне ад патранімічнага (імяннога) прынцыпу ў назвах населеных пунктаў практычна адмовіліся***. ***Нават нязначнаму расійскаму гораду Кіраву вярнулі гістарычную назву Вятка.***

Вельмі мала зроблена ў справе перайменавання гарадскіх вуліц Беларусі, названых у гонар герояў расійска-савецкай гісторыі. Паказальны ў гэтым сэнсе прыклад сталіцы. За 1990—2008 гады перайменаванні закранулі мінскія вуліцы наступных катэгорый: Другая сусветная вайна (+восем назваў), гістарычныя назвы (+сем), беларуская гісторыя і культура (+пяць), савецкі камунізм, савецкая гісторыя і культура (-сем). Лічбы дэманструюць дэсаветызацыю, хоць і вельмі памяркоўную, у параўнанні, напрыклад, з Кіевам (-49 назваў). Па звестках на канец 2008 года, мінскія вуліцы, якія маюць патранімічны характар, размяркоўваюцца па паходжанні герояў наступным чынам:

*31,4% — героі Вялікай Айчыннай вайны,*

*30,8% — героі дасавецкай расійскай гісторыі, культуры і савецкага камунізму,*

*10,2% — героі беларускай савецкай гісторыі і культуры,*

*7,2% — героі беларускай дасавецкай гісторыі і культуры.*

***Назвы вуліц у гонар герояў беларускай гісторыі адсоўваюцца на перыферыю, што выглядае вельмі нелагічна для сталіцы суверэннай дзяржавы. Героям несавецкага часу адведзена самая меншая частка сталічных вуліц*** з патранімічнымі назвамі (7,2 працэнта), тады як у Кіеве — 16%, а ў Вільнюсе вуліц, названых у гонар герояў расійскай гісторыі і дзеячаў савецкай Літвы, засталося ўсяго пяць. Некаторым выключэннем у справе адмовы ад савецкай тапанімічнай спадчыны з'яўляюцца Полацк і Гродна.

Летам 2006 года ў Мінску на вуліцы Каліноўскага пачалося будаўніцтва царквы ў гонар Усіх Святых і ў памяць бязвінна забітых. Даведаўшыся, што храм знаходзіцца на вуліцы, названай у гонар чалавека, які ўзначальваў антырасійскае паўстанне, маскоўскія спонсары патрабавалі перайменаваць яе. Гарадскія ўлады прапаноўвалі перайменаваць толькі частку вуліцы, дзе знаходзілася царква. Урэшце быў знойдзены выхад, які задавальняў усіх: у канцы 2007 года, каб не даваць храму непрымальны юрыдычны адрас, безназоўную вуліцу, якая перасякала вуліцу Каліноўскага, назвалі Усясвяцкай. Адметна, што горад не паддаўся дыктату спонсараў.

Практычна ў кожным беларускім горадзе стаіць помнік **Уладзіміру Леніну.** Існуе меркаванне, што па колькасці кананізаваных помнікаў правадыру пралетарыяту БССР займала першае месца сярод саюзных рэспублік. У інтэрнэце ёсць сайт "Каталог помнікаў Леніну ў Беларусі", на якім размешчаны 107 фотакартак беларускіх помнікаў Уладзіміру Ільічу (даныя на пачатак 2004 года). Сярод іх гісторыка-культурнай каштоўнасцю з'яўляюцца ўсяго дзевяць — у Мінску, Брэсце, Баранавічах, Пінску, Віцебску, Гомелі, Салігорску, Магілёве і Бабруйску. У кожным больш-менш значным паселішчы ёсць помнікі ахвярам і героям Вялікай Айчыннай вайны. Найбольш пашыраны помнік Веры Харужай (Бабруйск, Віцебск, Мазыр, Пінск, Пружаны).

У беларускіх гарадах пастаўлены помнікі наступным героям нацыянальнай гісторыі:

**Еўфрасінні Полацкай**, асветніцы, прылічанай да святых (Полацк, Мінск);

**Кірылу Тураўскаму**, асветніку (Мінск, Тураў);

**Усяславу Чарадзею**, полацкаму князю (першы ў Беларусі конны помнік — Полацк);

**Вітаўту,** вялікаму князю ВКЛ (Гродна, вёска Пялеса Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці);

**Героям Грунвальдскай бітвы** (Старыя Дарогі);

**Францыску Скарыну**, беларускаму першадрукару (Мінск, Полацк);

**Міколу Гусоўскаму**, паэту, гуманісту і асветніку (Мінск);

**Канстанціну Астрожскаму**, знакамітаму вайсковаму начальніку ВКЛ (Тураў);

**Сымону Буднаму**, царкоўнаму рэфарматару, асветніку (Нясвіж, Мінск);

**Васілю Цяпінскаму**, гуманісту, асветніку (Мінск);

**Сімяону Полацкаму**, рэлігійнаму дзеячу, пісьменніку (Полацк);

**Антонію Тызенгаўзу**, эканамічнаму рэфарматару канца XVIII ст. (Гродна);

**Адаму Міцкевічу**, паэту (Брэст, Навагрудак, Мінск);

**Кастусю Каліноўскаму** (Свіслач);

**Рамуальду Траўгуту**, герою паўстання 1863 г. (Свіслач);

**Валерыю Урублеўскаму**, герою паўстання 1863 г. (Гродна);

**Элізе Ажэшка**, пісьменніцы (Гродна);

**Янку Купалу**, паэту (Мінск, Гродна);

**Якубу Коласу**, пісьменніку (Мінск, Навагрудак);

**Адаму Багдановічу**, этнографу (Старыя Дарогі);

**Максіму Багдановічу**, паэту (Мінск, Старыя Дарогі);

**Максіму Гарэцкаму**, пісьменніку (Мінск);

**Язэпу Драздовічу**, мастаку (Мінск);

**Марку Шагалу**, мастаку (Віцебск);

**Уладзіміру Караткевічу**, пісьменніку (Орша);

**Пятру Машэраву**, савецкаму дзеячу (Віцебск);

**Ларысе Геніюш**, паэтцы (Зэльва, Старыя Дарогі);

**Міколу Ермаловічу**, гісторыку (Маладзечна);

**Анатолю Бярозку**, эміgranцкаму паэту і лекару (Старыя Дарогі);

**Міколу Улашчыку**, гісторыку (Старыя Дарогі);

**Льву Сапегу** (Лепель);

**Мітрафану Доўнар-Запольскаму** (Рэчыца).

Помнікі ў Старых Дарогах узведзены на сядзібе калекцыянера і грамадскага дзеяча Анатоля Белага намаганнямі гаспадара.

У той жа час у беларускіх гарадах захоўваюцца помнікі героям расійскай і савецкай гісторыі і культуры:

**Аляксандру Сувораву**, ваеннаму начальніку (Кобрын, Брэст);

**Пятру Баграціёну**, герою вайны 1812 г. (Ваўкавыск);

**Уладзіміру Азіну**, герою вайны 1812 г. (Полацк);

**Героям вайны 1812 г.** (Полацк);

**Сяргею Халтурыну**, народніку-рэвалюцыянеру (Бабруйск);

**Аляксандру Пушкіну**, паэту (Мінск, Магілёў);

**Мікалаю Гогалю,** пісьменніку (Брэст);

**Льву Талстому**, пісьменніку (Полацк);

**Максіму Горкаму** (Мінск);

**Раману Кандрацэнку**, герою абароны Порт-Артура (Полацк);

**Іосіфу Сталіну**, бальшавіцкаму правадыру (Свіслач, "лінія Сталіна");

**Феліксу Дзяржынскаму**, галоўнаму бальшавіцкаму карніку (Стоўбцы і два ў Мінску);

**Міхаілу Калініну**, старшыні ЦВК СССР (Мінск);

**Сяргею Кіраву**, кіраўніку бальшавіцкай арганізацыі Ленінграда (Магілёў);

**Рыгору Арджанікідзе**, наркаму цяжкай прамысловасці СССР (Барысаў);

**Андрэю Грамыку**, міністру замежных спраў СССР (Гомель).

Пазітыўную ролю маюць некаторыя помнікі ўраджэнцам Беларусі, якія сталі героямі Расіі і Савецкага Саюза: расійскаму і беларускаму першадрукару **Пятру Мсціслаўцу** (два ў Мсціславе), касманаўтам **Пятру Клімуку** (Брэст) і **Уладзіміру Кавалёнку** (Крупкі), авіяканструктару **П.В.Сухому** (Гомель). Асобнае месца займае помнік украінскаму паэту **Тарасу Шаўчэнку** (Мінск).

Бясспрэчна, што на першым месцы па колькасці помнікаў стаіць у Беларусі героіка Вялікай Айчыннай вайны. Што тычыцца іншых помнікаў, то сярод іх, па нашых прыкладных падліках, большасць належыць героям расійска-савецкай гісторыі і культуры: 107 — Леніну (амаль у кожным горадзе), 26 — іншым. Усяго 133. Героі нацыянальнай гісторыі намнога саступаюць. У Беларусі ім пастаўлена 43 помнікі. Па іх колькасці лідзіруюць Мінск, Гродна і Полацк.

У манументальнай мемарыялізацыі герояў не абыходзіцца без канфрантацый. Дагэтуль у Мінску не пастаўлены помнік **Канстанціну Каліноўскаму**, хоць было вызначана і месца — бульвар на перакрыжаванні вуліц Захарава і Першамайскай. У 2000 годзе ў суверэннай Беларусі (г.Свіслач, што на Гродзеншчыне) упершыню з'явіўся новы **помнік Сталіну.** У 2006 годзе на "Лініі Сталіна" ўстаноўлены бюст "правадыра", прывезены з пасёлка Івянец Валожынскага раёна. Неверагодны праект выношвалі беларускія дзеячы з арганізацыі "За Саюз і Камуністычную партыю Савецкага Саюза". Яны збіраліся ўсталяваць помнік Сталіну ў Мінску. Ініцыятары запэўнівалі, што рэпрэсаваныя былі ворагамі народа. Але Мінгарвыканкам не дае дазволу. У 2006 г. на тэрыторыі Ваеннай акадэміі ў Мінску з'явіўся яшчэ адзін помнік **Феліксу Дзяржынскаму**. Ініцыятарам устанаўлення трохметровай скульптуры бальшавіка выступіў тагачасны старшыня Дзяржкамітэта памежных войск **Аляксандр Паўлоўскі**, які заяўляў, што Дзяржынскі быў *"станоўчай фігурай у гісторыі"* і што *"несправядліва звязваць яго з рэпрэсіямі".* Усё гэта выклікае негатыўную рэакцыю ў грамадстве.

У горадзе над Дзвіной планаваліся бронзавыя помнікі княгіні **Вользе і Аляксандру Неўскаму.** Вольга, на думку віцебскіх чыноўнікаў, заснавала горад. Аляксандру Неўскаму збіраліся паставіць манумент проста за тое, што "ён тут быў". **Аляксандр Груша**, загадчык аддзела гісторыі Беларусі сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу Інстытута гісторыі НАН Беларусі не бачыць у гэтым ніякага сэнсу. Аляксандр Неўскі сапраўды прыязджаў у Віцебск, каб забраць з горада свайго сына, але ніякага ўдзелу ў абароне беларускіх земляў не браў. Доказаў, што горад заснавала княгіня Вольга, няма. Нягледзячы на гэта, помнік Вользе збіраліся паставіць насупраць летняга амфітэатра, дзе штогод праходзіць фестываль "Славянскі базар", а помнік у гонар наўгародскага князя Аляксандра Неўскага — на плошчы Тысячагоддзя. Канчатковага рашэння не прынята. Напэўна, віцябчанам хочацца прыхінуцца да славы раскручаных гістарычных персанажаў, хоць у Беларусі хапае і сваіх. Адначасова ў Віцебску збіраюцца паставіць помнік вялікаму **князю ВКЛ Альгерду**, сапраўднаму герою беларускай гісторыі. У Віцебску Альгерд збудаваў абарончы замак, пры вялікім князі горад у эпоху сярэднявечча дасягнуў росквіту. Праўда, на фоне Вольгі і Неўскага помнік Альгерду будзе глядзецца зусім недарэчна...

У 2009 годзе разгарэлася дыскусія вакол помніка да 1000-годдзя Брэста. Гарадскія ўлады вырашылі паставіць юбілейны помнік з выявамі некалькіх гістарычных асоб уладзіміра-валынскага князя **Уладзіміра Васількавіча**, караля **Ягайлы**, вялікага князя ВКЛ **Вітаўта**, палкаводца і дзяржаўнага дзеяча ВКЛ **Мікалая Радзівіла Чорнага,** ігумена **Афанасія Філіповіча**, героя абароны Брэсцкай крэпасці **Андрэя Кіжаватава**, першага героя Рэспублікі Беларусь **Уладзіміра Корвата**, пісьменніка **Уладзіміра Калесніка**). У ходзе абмеркавання канцэпцыі постаць караля Ягайлы як ворага праваслаўя была адхілена па патрабаванні Брэсцкай праваслаўнай епархіі. Гэта выклікала раскол сярод брэстаўчан на праціўнікаў і прыхільнікаў пазіцыі праваслаўнай епархіі. Рашэнне аб узвядзенні помніка за народныя грошы прымалася без грамадскага абмеркавання.

У нашай краіне не стала традыцыяй змяшчаць сваіх герояў на грашовых купюрах. Такіх бясспрэчных герояў проста не было ў памяці грамадства. На юбілейных медалях Беларусі ёсць выява толькі **Усяслава Чарадзея**.

Сацыялагічныя апытанні паказваюць, што дзяржаўная палітыка памяці (іншымі словамі — патрыятычнае выхаванне) аказваецца малаэфектыўнай. Людзі не ведаюць тых герояў, якіх прапаноўвае афіцыйная прапаганда. Зусім без увагі застаюцца ў народзе героі Вялікай Айчыннай вайны, калі не лічыць **Пятра Машэрава.** У дзяржаўнай палітыцы памяці і ў галовах жыхароў Беларусі пануе хаос і эклектыка. Слава чужых герояў паблякла, а ўласных як след не зазіхацела. Большасць грамадства ставіцца да герояў гісторыі зусім індыферэнтна, механічна. Яны нічога не значаць для іх. Навуковая і грамадская думка, як і ў былым Савецкім Саюзе, пад увагу не прымаецца. Негатыўнае ўздзеянне на калектыўную памяць народа аказваюць недасведчанасць у гісторыі чыноўнікаў, іх канфесійны падыход да ацэнкі герояў гісторыі. Многія з прадстаўнікоў маладога пакалення чыноўнікаў - адукаваныя, дасведчаныя, але мусяць падпарадкоўвацца афіцыйнай устаноўцы: шанаваць толькі праваслаўнае і ўсё, што звязана з Расіяй. Выяўленыя тут негатыўныя моманты застаюцца непераадоленымі дагэтуль. Дзяржаўная палітыка памяці з яе нявызначанасцю нацыянальна-дзяржаўных пазіцый спараджае маргіналаў з іх абыякавасцю і нават вандалізмам у дачыненні да нацыянальных каштоўнасцяў.

**Захар ШЫБЕКА, доктар гістарычных навук.**

ОСОБЫЙ СЛУЧАЙ

# Сгорел из-за любви?

*Трагедией закончилась ссора семейной пары из города Слонима.*

Не так давно буквально все СМИ облетела информация о том, что утром 12 мая в городе Слониме во дворе многоквартирного жилого дома 43-летний мужчина облил себя легковоспламеняющейся жидкостью и поджег. Соседи, которые оказались недалеко от происходящего, бросились тушить человека подручными средствами. Пострадавший в крайне тяжелом состоянии был доставлен в реанимацию.

Чуть позже местная пресса со ссылкой на правоохранительные органы и сотрудников МЧС сообщила подробности. Оказывается, акт самосожжения мужчина учинил на почве ссоры с женщиной, с которой живет в гражданском браке. Поругалась пара якобы из-за того, что уже с утра мужчина был подшофе. Претензии гражданской жены мужчине не понравились, и он пригрозил совершить самоубийство: сжечь себя вместе с автомобилем, принадлежавшим по документам женщине. И... сдержал слово.

Выскочив на улицу, во двор дома, где пара и проживала, он облил салон машины и себя растворителем и поджег спичкой. Соседи, которые были в это время неподалеку, бросились тушить одежду мужчины и машину, из которой повалил дым. Кто-то вызвал пожарных. Когда спасатели прибыли на место, несчастному уже требовалась помощь врачей. Его, к слову, тут же госпитализировали в реанимационное отделение местной больницы. Огонь, который охватил машину, пожарные потушили. Но старенькое Ауди А4 сильно повреждено: у автомобиля выгорел салон, багажный отсек, поврежден огнем двигатель. К счастью, рядом с машиной не было других авто.

По данному факту Слонимским РОВД было возбуждено уголовное дело. Но сегодня от каких-либо комментариев сотрудники милиции отказываются. Дело в том, что мужчину спасти не удалось. Спустя четыре дня после трагедии он умер в больнице.

— Делали все возможное, — рассказали нам в отделении реанимации. — Но он поступил в крайне тяжелом состоянии. Огнем было обожжено 70% поверхности тела, ожоги 2-й и 3-й степеней. Он сам себя убил.

На Слонимском мясокомбинате, где работал несчастный, до сих пор все в шоке.

— Конечно, поверить в это было сложно, — рассказали нам на предприятии. — Юрий Михайлович — обычный работник, неконфликтный, уравновешенный, никогда ничего подозрительного в его поведении не замечали. Случай этот на предприятии мы обсуждали, и большинство сходится во мнении, что если бы он не выпил, то и не совершил бы этот чудовищный поступок. Вряд ли он рассчитывал умереть. Скорее хотел попугать свою половинку.

Женщины мясокомбината более категоричны: "Несколько лет назад Юрий ушел из семьи — от жены и сына, и, судя по всему, не все так гладко складывалось в новом союзе. Он переживал, и, видимо, не обходилось без алкоголя. Причина трагедии — любовь. Только с чувствами надо разбираться на трезвую голову".

Машина выгорела почти полностью.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

